САТЫРЫЧНЫМ ПЯРОМ

# Калі вы ўжо наясцеся?!

## Маналог Міхася Пудрыка

Нездарма казалі даўней: "Дзе чорт сам не справіцца – туды бабу пашле". Ніхто іншы, як гэтыя няцямлі і каламуцяць усё ў нашым грамадстве. Бачыце, яды ім мала. Яек захацелася, масла, цукру! І каб было ўсяго – аж цераз край! Можацце і меншай колькасцю абысціся – не пахудзееце. Не падабаецца, што масла прадаюць толькі раніцай, яйкі толькі ўвечары, цукар – па суботах... Клопат хоць маеце, шаноўныя паненкі, а то сядзелі б усю зіму ў хатах, як прусакі за шпалерамі, і ніякіх навін, акрамя тэлевізійных, не ведалі б. А так – кожны дзень на людзях: і сябе пакажаце, і на іншых паглядзіце. У нашым магазіне, куды я па віно хаджу, яйкі прадаюць у пяць гадзін вечара, а чаргу ў дзве займаюць, гадзіну пад дзвярамі таўкуцца, бо ў магазіне абед, а потым усярэдзіну заходзяць. А там – дзве гадзіны ў цяпле, сярод каляжанак – во дзе ўжо ўсяго наслухаешся: усе газеты разам узятыя (залежныя і незалежныя) такога не надрукуюць... А ім – усё кепска! Начальству гандлёваму звоняць, чаму яек мала? Быццам начальства тыя яйкі само нясе. Навошта занятых людзей дарэмна турбаваць. Забыліся, паненкі, як некалі ўсю зіму яек і ў вочы не бачылі. Свае куры зімой век не няслісія, карова не даілася, не толькі масла – малака не было. І трасца вас не брала. А працавалі як! Пра ўсё забыліся, галубкі. Няхай ужо маладыя такія нецярплівыя – яны нічога не бачылі. А тут ужо старыя абураюцца, касавурацца, за кожнае яйка гатовы пабіцца. І не сорамна? Вы на нас, на мужчын, паглядзіце, нябогі. Ды нас амаль і няма ў гэтых чэргах. Зойдзем, бывае, пляшку купім і пойдзем, пасміхаючыся з вас, дурніц. Вам жа казалі разумныя людзі і па радыё, і па тэлебачанню: есці менш трэба. Летась елі больш чым пазалетась, сёлета больш, чым летась – вас так век не ўкорміш. Проста вусені нейкія!

Я заўважыў, што нашых бабаў шмат псуе тэлебачанне, бунтуе іх, падштурхоўвае на розныя дрэнныя думкі!.. Не, я не пра серыялы кажу. Гэта добра, няхай глядзяць. Я кажу пра інфармацыю ўсякую. Паказалі нядаўна, што ў Францыі вялізных свіней выгадавалі, мяса проста падзець няма дзе. Нашы зноў бубняць: чаму ў нас не гэтак? Ды вы на сябе паглядзіце ў люстэрка: хіба французскія кабеты такія?.. Яны ж худыя, бо ядуць мала. Таму ў іх і свіней дзяваць няма куды. А вам колькі не дай – усё ўмелеце. Што ні кабета, то дзяжа з ножкамі. Дзе ж ты набярэшся на такіх яды. Ды хіба, паненкі, вам толькі яды мала? Вам усё не так, усё не гэтак. Не было снегу, то бурчалі: "Мароз цісне, а зямля голая...". Цяпер навалілa яго па самае годзе, то зноў бяда: чаму тратуары не чысцяцца? Не кажучы пра ўскраіну, у самым цэнтры на тратуар не ўзлезці. Па праезджай частцы трэба поўзаць, пад коламі машын блытацца... Дома сядзіце, калі не падабаецца, або па ўскраінных вуліцах да цэнтра дабірайцеся. Там не тое што машын няма, там і пешаходаў мала, бо кругом па пояс снегу... Бачыце, ужо і пра зіму сапраўдную забыліся, як некалі пад вокнамі сапраўдныя гурбы намятала. Ох, і разбэсціліся вы, бабы, ох разбэсціліся! Забыліся прымаўку, што вам дарога ад печы да парога. Жартам нехта сказаў, што кожная кухарка павінна ўмець кіраваць дзяржавай, а вы і абрадаваліся. Ніякай дзяржавай вы кіраваць не будзеце. З вамі і так клопату не абярэшся.

Ехаў я нядаўна ў Дзятлава па вуліцы. Якраз пасля марозу адліга наступіла, снег пачаў раставаць. На праезджай частцы – снежная каша. Тут і пешаходы таўкуцца. Ну, я ненарокам пырснуў гэтай кашай на адну кабету... Як яна залямантавала! Гэта трэба было чуць і бачыць. У мяне новая машына заглохла ад енку. Думаў – прыдушыў, выйшаў з кабіны, а яна – жывая і здаровая. Цябе што, кажу, з гранатамёта абстралялі? Верашчыш, што ў небе чутно. Ці мо каменнем закідалі? Снежная каша мякенькая. Абтрасі, а дома абсохнеш – і знаку не застанецца.

– Я скардзіцца буду, я ў міліцыю пайду, – крычыць, што ёсць сілы...

Ды ідзі ты, ідзі, кажу, толькі замоўкні.

Цяпер бачыце, якая яна, лепшая палова чалавецтва. І хто гэта толькі прыдумаў: лепшая палова! Мы ім і дзень спецыяльны святочны прыдумалі, чырвонай фарбай у календары запісалі. І ўсякія кветачкі-падаруначкі прыпадносім. А яны хіба гэта цэняць? У, няўдзячныя! Добра, што для вас чэргі прыдумалі, не пашкодзіць. Для мяне, дык свята, калі мая ў чаргу пойдзе. Я і вып'ю і пасплю, і зноў вып'ю, а яна ўсё там душыцца: то за адным, то за другім, то за трэцім! Вочы зайздрослівыя!.. Ат, што там гаварыць: баба, яна і ёсць баба!

*Запісала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ*

НАВІНЫ

## Нужен клуб

**25 декабря состоялся новогодний шахматный турнир. Призовые места заняли С.Ольховик, В.Лекшин, В.Литвин.**

Шахматисты обратились к председателю горисполкома об открытии шахматно-шашечного клуба.

## Наш конкурс

**ИТОГИ:**

**лучший игрок** — Алексей Баль, Анатолий Дегиль и Игорь Киркиж — по 4 очка, Алексей Адамицкий — 3, Евгений Савонь, Олег Савицкий, Георгий Татарашвили — по 1 очку;

**бомбардир** — Георгий Татарашвили (4 забитых мяча), Олег Савицкий (3), Анатолий Дегиль и Евгений Савонь (по 2), Андрей Диваков (1).

**лучший новичок** — Алексей Адамицкий (3 очка), Евгений Савонь и Андрей Диваков (по 2), Олег Киреня, Алексей Панковец и Андрей Толмач (по 1).

**ПО ПРИСЛАННЫМ КУПОНАМ И ТЕЛЕФОННЫМ ЗВОНКАМ:**

**лучший игрок** — А. Дегиль и Киркиж — по 4 очка, Баль — 3 очка, Ал. Адамицкий — 1.

**бомбардир** — Татарашвили — 9 очков, Савицкий — 2, А. Дегиль — 1.

**лучший новичок** — Ал. Адамицкий — 9 очков, Толмач — 2, Панковец и Киреня по 1.

**ПРИСЛАЛИ КУПОНЫ И ЗВОНИЛИ ПО ТЕЛЕФОНУ:**

Евгений Матейчук, Александр Декола, А.Жилинский, Алексей Лойко, Юрий Зданчук, Алла Палюхович, Иван Столярчук, Т.Ижаковский, Николай Лешевич, Юрий Кунцевич, Елена Рагозик, Сергей Юнаш, Сергей Ботик и др. СПАСИБО!

## Не соблазнился

Знаменитый хоккеист Павел Буре не примет предложение президента Александра Лукашенко играть за Беларусь. Об этом сообщила мать спортсмена Татьяна Буре в интервью российской газете «Спорт-экспресс».

По словам Татьяны Буре, Павел встречался с президентом Беларуси неделю назад в Москве, где А.Лукашенко пригласил лучшего нападающего Олимпийских игр в Нагано и его мать, бывшую минчанку, на прием в посольство Беларуси в Москве. Затем в американской прессе появилась информация о том, что в Беларуси Павлу Буре готовы платить 4 млн. долларов в год чистыми. В тоже время клубы Лос-Анджелеса и Нью-Йорка готовы заключить с ним семилетний договор на 84 миллиона долларов, то есть его зарплата достигнет 12 млн. в год.

ВЕСТКІ З МАСТОЎШЧЫНЫ

## Ксёндз у лякарні

**Напярэдадні Калядаў мастоўскую бальніцу наведаў ксёндз мясцовага касцёла.**

Хворыя атрымалі Божае благаслаўленне з вуснаў святара. Хворым патрэбны не толькі лекі, але і цёплае слова, што цешыць душу.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Ёлка ў Лунне

**У мястэчку Лунна саюз палякаў наладзіў навагоднюю ёлку для дзяцей мястэчка і навакольных вёсак, што вывучаюць польскую мову.**

На свяце прысутнічаў генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне Сільвестар Шостак.

Ян ШУЛЯК

## Трагедыя на дарозе

**У вёсцы Струбніца Мастоўскага раёна "Мерсэдэс" сутыкнуўся з веласіпедыстам.**

Вынік трагічны. Веласіпедыст загінуў на месцы. Вадзіцель з месца здарэння ўцёк.

## "Клопат" пра працоўнага чалавека

**У акцыянерным таварыстве "Мастоўдрэў", па словах галоўнага санітарнага ўрача раёна Л.Нікевіча, для працоўных 40 чалавек у змену ўчастка лесабіржы для абагрэву выдзелена памяшканне ў сем з паловаю квадратных метраў.**

У ім няма нават вешалкі для адзення, няма вады і ўмывальніка. І гэта нікога не кранае: ні адміністрацыю, ні прафсаюз. Маўчаць і рабочыя.

Язэп ПАЛУБЯТКА

ВЕСТКІ З ДЗЯТЛАЎШЧЫНЫ

## Лепшыя стралкі

**У калгасе "Зара" прайшлі спаборніцтвы па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі.**

У іх удзельнічалі 33 чалавекі. Былі і дзеці, і дарослыя. Першае месца заняў Руслан Кароль, другое – Мар'ян Захарэўскі, трэцяе – Дзмітрый Сіўко. Пераможцы ўзнагароджаны ганаровай граматай раённага спорткамітэта, а таксама каштоўнымі падарункамі і грашовымі прэміямі ад праўлення калгаса.

## Узнагарода знайшла салдата

**Праз 55 гадоў атрымаў франтавую ўзнагароду жыхар Дзятлава Віктар Пуйта.**

Былы салдат быў прадстаўлены да ордэна Славы трэцяй ступені яшчэ ў студзені 1944 года. Аднак, па розных прычынах, атрымаць яго не змог. Нядаўна ва ўрачыстых абставінах Віктару Аляксеевічу быў уручаны ордэн. З гэтай падзеяй яго шчыра павіншавалі ваеннаслужачыя, прадстаўнікі грамадскасці Дзятлава.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

Малюе Кірыл Фархутдзінаў







ПРОШУ СЛОВА

**Здравствуйте, уважаемая редакция "Газеты Слонімскай"!**

**Пишет вам мать одного ученика, который закончил 9 классов и хотел поступить в СПТУ.**

Вот наша история. Два года назад в СШ №8 и СШ №3 образовали новые классы. Детей распределили по оценкам: с "тройками" в один, с "тройками" и "четверками" в другой, и так далее. У кого было много "троек" определили в класс с трудовым уклоном. Провели в школе собрание и сказали, что ничем эти классы не отличаются от других, только будет усилено трудовое обучение. Школьная программа будет та же.

Что из этого вышло? Дети этого класса стали изгоями в школе. К ним прикрепили клички "дебилы". Учителя за четверть неизменно ставили "тройки". При таком положении вещей они убили у детей всякое желание учиться. Одни учителя труда поддерживали желание трудиться, спасибо им за это.

Закончив 9 классов, дети захотели быстрее найти место в жизни. Ну, думаю, слава Богу, мой ребенок не потерял веру в себя, решил поступить в СПТУ. И что он слышит в училище? –Ваш класс с ослабленной программой.

Документы вообще не хотят принимать... Где правда, и где ложь? Наших детей там считают умственно отсталыми. Не знаю, сколько детей и родителей пострадало от этого. Не желаю никому такого горя, какое перенес мой ребенок и я.

Матери, обращаюсь к вам, не допускайте образования такого класса в школе. Хотят, пусть образовывают классы с сильными учениками, а остальных пусть оставляют в своих классах. Пусть не будет больше "дебилов". Подписываться не буду, так как еще дети учатся, и это может повредить им. Но может народное образование задумается, к чему приводят такие новшества! А может быть, они хотят, чтобы увеличилось количество "бомжей" или безработных в Слониме?

Просто МАМА

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 30 снежня 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.000 экз. Заказ №3581



ПОШТА

## "Хоть в петлю лезь"

На страницах вашей газеты хочется поделиться о наболевшем. Очень надеюсь, что это письмо опубликуете.

Я являюсь застройщиком кооператива №37 от КПФ. Наш 9-этажный дом на вид очень красивый и, естественно, дорогой. Кредит открыл банк почти на 900 млн. для каждого застройщика. Плюс 150 млн., которые жильцы платят за "лишнюю" площадь: это коридорчики, кладовки, балконы. Теперь это все оплачивается. Дом нам обошелся в копеечку, но самое интересное то, что вместо плитки стены на кухне почти до потолка выкрасили в бежевый цвет. В ванной тоже самое, хотя по проектной смете должна быть плитка. Напрашивается: "Где она?". Может она "ушла налево". Линолеум постелили некачественно, какими-то кусками. Самое страшное, так это неровные потолки. Говорят, что плиты перекрытия были неодинаковой толщины. Получается, что одна плита висит над другой. И так в каждой комнате и на каждом этаже. Исключение — 3-4 квартиры, где потолок более или менее нормальный. Ванная комната настолько маленькая, что даже негде поставить стиральную машину. Зато кладовка, которая находится рядом с ванной,— огромных размеров. Хоть кровать туда ставь. Строители должны были клеить обои, но по неизвестным причинам отказались выполнять эту работу, предоставив ее жильцам. В итоге, надо нанимать мастера. Опять личные денежные расходы. А вот где брать деньги на эти непредвиденные расходы — непонятно. Только в этом месяце за лишнюю площадь было внесено по 22 млн. К Новому году строители обязаны были сдать дом (стройка длится уже 2 года), только это маловероятно, так как везде еще море работы.

На лестничных площадках, в подъезде — грязь, застывший раствор цемента. Будущие жильцы очень боятся, что сдача задержится и придется открывать еще один (4-ый) кредит...

Хорошо нас, простых трудяг, накололи. Хоть в петлю лезь!

**С уважением, Л.О.С.**

**P.S.** Извините, что не подписалась полным именем, боюсь, что будут неприятности.

ФОТОМИГ

## Хорошо сидим





*Фото Николая СУПРУНА*

## "Я не грабитель, не убийца"

Хочу обратиться с просьбой. Пожалуйста, отнеситесь к ней со всей серьезностью и пониманием. Пускай Вас не удивит то, что пишу я из тюрьмы. Я такой же человек, как и все. Когда я сел в тюрьму, то потерял буквально все светлое, чистое, счастливое. Я не грабитель, не убийца, не насильник. В вашей газете я видел объявления о знакомствах. До этого я писал во все газеты, в которых есть подобная рубрика. Но сколько моих попыток не было, все они были безуспешны. Как и всем людям, мне хочется иметь семью, иметь любимую, жить для кого-то. Если ваше объявление платное, то пришлите мне чек, так как наличных денег у нас нет, все деньги лежат на счету. Как только появится работа, я заработаю и вышлю вам. Буду надеяться, что вы отнесетесь ко мне благосклонно.

**Текст объявления:**

Познакомлюсь с женщиной до 35 лет для создания семьи.

231900, Волковыск, ул.Рокосовского, 15-11-4, **Сопьянику Сергею И.**

## Поздравляю

По случаю 60-летия "Газеты Слонімскай" редакции и читателям желаю от своего имени и от имени всех бывших слонимчан, живущих далеко от родного и любимого города Слонима, всего самого хорошего. Редакции желаю ценных текстов, а читателям — чтобы все публикации им нравились. С Новым годом!

**Здислав СТАНКЕВИЧ, г. Слупск (Польшча)**

## З 60-ці годдзем!

Год 1998, як і для Беларусі, быў для мяне нялёгкім. Наўдаліца-бесперспектыўнасць, — гэтым ён засмучваў, прыгнятаў, абяздольваў. Але гэта не значыць, што рукі мае былі без працы: закончыў падрыхтоўку анталогіі польскай паэзіі XX стагоддзя, пераклаўшы больш 180 аўтараў; пісаў і ўласныя вершы. Асабліва шмат пісаў і выступаў у сувязі з двухсотай гадавінай Адама Міцкевіча. 1999 год — год Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Пушкін з маленства мне родны, як і Адам Міцкевіч... Дык з Новым Годам:

Поднимем бокалы,
Содвинем их разом,
Да здравствуют музы,
Да здравствует разум!..

З нагоды 60-годдзя "Газеты Слонімскай" першым чынам успамінаю добрым словам слаўнага Сяргея Новіка-Пеюна, бо гэта несумненна ён пад прозвішчам сваёй жонкі выдаў яе першы нумар. А пажаданне адно: хай, як на далоні, на старонках Вашай і нашай газеты глядзіцца Слонім і Слонімшчына — гэты цудоўны куток Беларусі з усімі яе поспехамі і нягодамі — гістарычнымі і сённяшнімі. Праўдзівае слова патрэбна заўсёды, — будзьце, заставайцеся толькі пры яе вялікасці праўдзе!..

**Алег ЛОЙКА, доктар філалагічных навук, член-карэспандэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь**

## Прысвячаю

Было б грэхам наракаць на нядобразычлівасць да мяне 1998 года. Друкаваўся больш чым у які-небудзь з папярэдніх гадоў, а галоўнае, у 1998 годзе пабачыў свет мой другі паэтычны зборнік "Трыба".

Чытачам "Газеты Слонімскай" прапаную свой новы невялікі верш.

Каб беларусу загадаў начальнік стацца беларусам,
Здзівіўся б свет,
якім адметным ён зрабіўся б беларусам.
Так за вякі да ўсякіх-розных
быў прывучан ён прымусаў,
Што лепей ад жыцця ён адрачэцца,
чымся ад прымусаў.
А мо другая ёсць таму ў яго жыцці-быцці прычына,
Што, нібы рэшата, дзіравая спакон яго хаціна?

**Іван ЧЫГРЫН, кандыдат філалагічных навук**

# НАВАГОДНІ КАНФУЗ

Пятрусь Гэблік і Наташка Груша працавалі разам на фабрыцы. Наташка была прыгажуняй на ўвесь цэх, і Пятрусь часта любаваўся яе здатнай фігуркай, калі дзяўчына праходзіла каля яго рабочага месца. Праз некаторы час ён пазнаёміўся з Наташкай і напрасіўся да яе ў госці. Дзяўчына жыла ў аднапакаёвай кватэры на "Энцы". І хоць Наташка ведала, што Гэблік жанаты і мае дачку, аднак не адмовіла ў спатканні, бо Пятрусь таксама ёй вельмі спадабаўся. Потым іх спатканні працягваліся на працягу чатырох гадоў, і абое адчувалі сябе шчаслівымі. Адзінокая Наташка заўсёды радавалася прыходу Пятруся. Чакала яго ў любы час і не ставіла ніякіх умоў. Але аднойчы, напярэдадні Новага года, яна паставіла Гэбліку пытанне рубам:

— Калі на гэты раз мы не будзем сустракаць свята разам, то паміж намі ўсё закончыцца!

— Што ты, зайка! — запярэчыў Пятрусь Гэблік. Гэта ж сямейнае свята. Што я скажу жонцы з дачкой? Давай сустрэнемся назаўтра.

— Не, хачу на свята быць разам з табой, — запярэчыла кабета.

Ультыматум прымусіў задумацца Гэбліка, бо яму вельмі не хацелася развітвацца з прыгажуняй. Таму, пасля доўгага роздуму, Гэблік прыйшоў да высновы, што на свята ўсё ж пойдзе да Наташкі. Дзён тры ён прыдумваў розныя планы ўцёкаў з дому. І нарэшце Гэблік прыдумаў просты і, на яго погляд, геніяльны выхад са становішча. А дапамагчы яго ажыццявіць ён папрасіў свайго даўнішняга сябрука Антося Завіленчыка...

Пятрусь Гэблік сядзеў з сям'ёй за сталом, які быў застаўлены напоямі і закускай. Прыкладна за дзве гадзіны да Новага года зазвінеў тэлефон. Трубку падняла жонка Пятруся, Ірына.

— Зламалі замок у гаражы? — трывожна перапытала Ірына. — Пятрусь! Там нешта з гаражом, — сказала яна.

— Антось, гэта ты? Што?.. Замок перапілавалі? Твая машына каля дому? То заедзь за мной, паедзем паглядзім разам! — сказаў Гэблік.

— Сусед паведаміў, што ў нас на дзвярах спілавалі замок, — сказаў ён жонцы.

— Няўжо наш новенькі "Фольксваген" укралі?! — забедавала жонка, дапамагаючы Петрусю апрануцца.

— Можа і не ўкралі, — супакоіў Ірыну Гэблік. — Калі што якое, то я патэлефаную табе з дому Антося, — сказаў ён і выбег з кватэры.

Аўтобусы пад Новы год хадзілі рэдка, і Гэблік пешшу пашыбаваў з вуліцы Чкалава, дзе жыў, на "Энку".

Калі праз гадзіну ён увайшоў у кватэру да Наташкі, то, не паспеўшы распранупца, патэлефанаваў дамоў.

— Ну, што? — устрывожана запытала жонка.

— Машыну не ўкралі, толькі замок зламалі. Мусіць нехта напалохаў злодзеяў, — плёў Гэблік. — Мяне зараз сябрук завязе назад у гараж, пасцерагу там да ранку, — паведаміў ён Ірыне. — Весяліцеся без мяне. Раніцай прымацую новы замок і прыйду дамоў.

— Дзякаваць Богу, што так абыйшлося, — радасна прашчабятала Ірына.

— Толькі матор не заводзь, — крыкнула ў трубку дачка.

Наташка ўжо даўно накрыла стол і радасна прашаптала:

— Пятрусік! У нас наперадзе цэлая ноч!

Яны пілі шампанскае, глядзелі тэлевізар і смяяліся. Гэблік весела расказваў каханай, як ён прыдумваў план уцёкаў ад жонкі.

— Артыст, дый годзе! — рагатала дзяўчына і адчувала сябе шчаслівай. Пятрусь таксама быў на сёмым небе ад шчасця...

Дамоў Гэблік вярнуўся пад раніцу. Жонка ўжо чакала яго і адразу пачала ставіць на стол прысмакі. Але ў яго не было апетыту. Прыкінуўшыся вельмі змучаным, Пятрусь прамовіў:

— Спачатку хачу выспацца, бо змерз за ноч, як сабака...

Прачнуўшыся пад вечар, Гэблік сеў з сям'ёй за стол. Пілі шампанскае, елі, весяліліся. І Пятрусь зноў адчуў сябе шчаслівым.



На наступны дзень Ірына прапанавала Гэбліку з'ездзіць у госці да маці на вёску. Пятрусь згадзіўся.

Усе трое яны пашыбавалі ў гараж, які знаходзіўся за возерам на Брэсцкай вуліцы.

Дарога да гаража была занесена снегам, і Гэблік хітра прапанаваў жонцы і дачцы:

— Чаго вам снег мясіць, пастойце тут, а я хутка пад'еду.

Гэблік падышоў да дзвярэй свайго гаража і ледзь не самлеў, — замок валяўся на снезе. Адчыніў дзверы — "Фольксвагена" і след прастыў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# ФОТАКОНКУРС АДЗНАЧЫЎ СВЯТА

**Фотаконкурс "У аб'ектыве — дзеці" наша газета праводзіла сумесна са слонімскімі фірмамі "Кодак", "Тэлкон", "CfS". Яго ўрачыстасць адбылася ў суботу, 26 снежня, у памяшканні драмтэатра.**

На свята прыйшлі аўтары, чые здымкі былі надрукаваныя ў "ГС", а таксама іх дзеці і сваякі. Кожны ўдзельнік конкурсу атрымаў ад рэдакцыі салодкія ласункі і паглядзеў навагодні спектакль "Крыштальная сняжынка".

Пераможцаў конкурсу вызначыла жараб'ёўка, якую правялі дзеці. Пашанцавала слонімцам Наталлі Мізгір і Сяргею Джылілаву, а таксама Валянціне і Ігару Міхальчыкам з вёскі Навасёлкі. Ад спонсараў ім у падарунак дасталіся фотаапарат і тэлевізійныя ігравыя прыстаўкі. А тым, каму ў той дзень пашанцавала менш, не трэба адчайвацца, бо з наступнага нумара "ГС" пачынае новы конкурс для нашых чытачоў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Мікалай СУПРУН (фота)**



*Пераможцы з прызамі*



*Падарунак ад фірмы "CfS" уручае Аляксандр Захараў*



*Прыз ад фірмы "Тэлкон" уручае Генадзь Бабошкін*

**ПОЧТА**

## Мира вам и добра!

Уважаемая редакция "Газеты Слонімскай"!

Сердечно поздравляю вас с 60-летним юбилеем и с наступающим Новым годом!

Спасибо вам за ваш нелегкий труд. И пусть новый 1999 год принесет вам много творческих удач и личного счастья каждому!

**Татьяна НОЗДРАЧЕВА**

## Спасибо за конкурс

От чистого сердца хотим всей семьей поздравить коллектив "ГС" с юбилеем — 60-летием!

Желаем оставаться такой же независимой и интересной, выходить без перебоев и быть замечательной газетой. Спасибо за ваши свежие новости и увлекательные конкурсы. Побольше бы таких интересных газет с иллюстрациями, как ваша. Мы "Газету Слонімскую" раньше не выписывали, а покупали, а с 1999 года стали вашими подписчиками. Нам очень понравился фотоконкурс "У аб'ектыве — дзеці", на который мы послали фотоснимок нашей доченьки Настеньки. Получили приглашение на "урачыстасць 26 снежня", за которое — большое спасибо.

Желаем вам огромных успехов в издании газеты.

**С уважением, семья БОШКО**



## СКАНВОРД от Владимира Вашуты

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | рассказ А.П. Чехова | | вид банковской операции | | рабочий стол | | народн. поэтесса Литвы | | обращение к суду | | киргизс. национ. эпос | | музыкальн. знак | | штат в США | | мужской голос | | | | лечебн. учреждение | | основн. несущ. часть машины | |
| | | | | мотив, напев | | | | | | | | участн. боя быков | | | | | | | | радар | | | | |
| | высшее научное учреждение | | в боксе | | | | | | двухколесный одноконный экипаж | | | | 100 кг. | | | | русский мореплаватель | | | | голос | | | |
| | | | | | | | | осел + кобыла | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | персонаж "Иллиады" Гомера | | | | | | | | | | | | | | вода при нагрев. | | корабельн. носовая надстр. | | | | | | | |
| | | | | | | русская мера веса | | | | в шахматах | | | | хим. элемент | | | | ловушка | | | | | | |
| | старин. воен. головн. убор | | | | | | левый приток Дона | | | | крупн. хищн. птица | | | | | | мужское имя | | европ. государство | | | | драгоценный камень | |
| пир на весь ... | | плод южного дерева | | | | | | русск. народ. сказка | | | | | | | | судовой комрилец | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | мужской голос | | | | "Поднятая целина" | | | | | | | | англ. мореплаватель | | | |
| пьеса А.Н. Островского | | | | элементарная частица | | | | | | | | "Киса" актер | | | | | | | | европ. государство | | на вершине | | |
| | | | | | в ВОВ команд. казач. корпуса | | | | воскоподобн. плавкое вещ-во | | | | | | | | награда | | | | | | | |
| Литва, Грузия | | каждая из трех косточек пальца | | | | | | ни ... ни двора | | | | | | | | суп рыба | | | | | | рота, полк | | |
| | музык. интервал | | летчик. космон. ЧССР | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | молдавский народн. танец | | | | профиль (сравнит.) | | | | в лесу | | | | сказка Г.Х. Андерсена | | | | | | |
| | река в Южн. Америке | | | | хим. соединение уклеводород | | | | | | геометр. фигура | | | | ряд, шеренга | | | | сдобн. белый хлеб | | | | муз. призведение | |
| | | | | | | | | город в Канаде | | | | | | | | торговец редк. старин. книгами | | | | | | | | |
| | у человека | | | | | | лебедь ... да щука | | | | | | | | | | оценка звуков. мощности | | | | | | | |
| | | | | столица гос-ва в центр. Америке | | | | | | | | весел. драм. произвед-ие | | | | | | | | рим река | | | | |
| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |

 



Газета Слонімская
31 снежня 1998 г. — 6 студзеня 1999 г., № 1 (82)

## Панядзелак, 4 студзеня

### БТ

6.30 Доброе утро, Беларусь!
8.15 Резонанс.
9.00 Новости.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 Прогноз погоды.
9.40 «Сегодня с вами...»
10.05 «Колядные истории». Владимир Матвеенко. «Как заяц мед попробовал».
10.15 «Навстречу».
11.00 Новости.
11.10 **«Доктор Финли»**. Сериал
12.05 Теленавигатор.
12.25 Музыка без границ.
13.00 Новости.
13.10 **«Осенний подарок фей».** Фильм-сказка.
14.20 «Втроем на одной дороге». Группа «Троица».
15.00 Новости.
15.10 «Денвер. Последний динозавр». Мультсериал
16.05 Курс французского языка.
16.30 «Колядные гадания».
16.50 Авто-парк.
17.00 Новости.
17.10 «А музыка звучит...»
17.40 **«Музы Слонима»**. Д/ф.
18.00 **«Доктор Финли»**. Сериал
19.00 Новости.
19.15 Политические диалоги.
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 Киноповесть **«Крылья»**.
23.20 Беларусский хит-парад.
23.25 Третий тайм.
23.55 Новости.

### ОРТ

7.30 Любимая сказка **«Три орешка для Золушки»**.
9.00, 14.00 Новости.
9.15 Юрий Николаев в программе «Новогодние сюрпризы «Утренней почты».
10.05 «Шайбу, шайбу!» Мультфильм.
10.25 Армейский магазин.
11.00 Новый Тарзан в х/ф **«Шина - королева джунглей»**.
12.55 Здоровье.
13.25 «Каламбур».
13.55 Программа передач.
14.10 Клуб путешественников.
15.00 Комедия **«Дорогая, я увеличил детей»**.
16.30 Премьера. «Незнайка на Луне» в программе «100 %».
17.00 Геннадий Хазанов в программе «Тема». Часть 1-я.
17.50 Лучший фильм Стивена Спилберга **«Инопланетянин»**.
19.45 «Спокойной ночи,малыши!»
20.00 Время.
20.25 Погода.
20.35 Новая комедия **«Полицейские и воры»**.
22.20 София Ротару, Ирина Роднина, Лидия Федосеева-Шукшина и другие «Женские истории».
23.25 Новость дня.
23.40 Триллер **«Острота ощущений»**. Фильм 2-й.

### РОССИЯ

7.00 «Трое из Простоквашино», «Приходи на каток». Мультфильмы.
7.25 Прогноз погоды.
7.30 Служу Отечеству!
8.00 «Каникулы в Простоквашино», «Жил-был пес». Мультфильмы.
8.30 Почта РТР.
9.00 Доброе утро, страна.
9.30 Сам себе режиссер.
10.00 «Аншлаг» и К°.
11.00 Подиум д'арт.
11.30 Домашние хлопоты с Натальей Варлей.
12.00 **«Неделя в Санта-Барбаре»**. Сериал.
13.00, 19.00 Вести.
13.30 Федерация.
14.10 Парламентский час.
15.10 Папа, мама, я - спортивная семья.
15.50 Д/ф «Естественный отбор».
16.45 Х/ф **«Д'Артаньян и три мушкетера»**. 1-я серия.
18.15 Совершенно секретно.
19.35 Любовь с первого взгляда.
20.05 Время кино. Мелодрама **«Любовь по заказу».**
21.35 Полицейский сериал **«Жара в Лос-Анджелесе»**.
22.25 «К-2» представляет: Новогодние мелодии «Абзаца».
23.25 - 23.28 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА

9.05 Погода.
9.10 «Российский курьер».
9.50 Мемуары с «Фитилем».
10.15 Музыкальный антракт.
10.30 Первая столица.
11.35 «Золотая ветвь».
12.05 «Новая опера».
12.35 Живое дерево ремесел.
12.40 «Академический час».
13.29 Азбука. Говорите по-русски.
13.30, 21.00 Новости культуры.
13.45 Без визы.
14.00 Сериал **«Машина превращений»**. 4-я серия.
14.30 «А прошлое кажется сном...» «Школьные годы». Д/ф.
15.35 «Барон Мюнхгаузен». Мультфильм.
15.50 Ф.Кемпф снова в Москве.
16.30 Мир авиации.
17.00 Новости.
17.05 «2003». К 300-летию Санкт-Петербурга.
17.10 «Я не могу без этой сцены, я - артист». Е.Шифрин.
18.00 «Мы поедем на «А» и на «Б»...» Поэты в Политехническом.
18.30 Концерт Ф.Синатры.
19.20 Чудо-сказка.
19.35 «Такое кино». «1001 рассказ про кино», «Великий мистификатор». Д/ф.
20.15 «Смеяться, право, не грешно».
20.59 Азбука. Говорите по-русски.
21.20 «Петербургские сезоны».
22.00 **«Корабельный Билл-младший».** Х/ф.

### НТВ

7.00 Мультсериал «Новые приключения Бэтмена» (США).
7.30 Наше кино. «Котенок».
9.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.15 Комедия **«Русское чудо»**.
10.35 Мультканикулы. «Винни-Пух», «Винни-Пух идет в гости».
11.20 Новогодняя елка на НТВ.
13.30 Х/ф **«Д'Артаньян и три мушкетера».** 1-я серия.
15.10 Наше кино. Х/ф **«Д'Артаньян и три мушкетера»**. 2-я серия, 3-я серия.
18.40 Мир кино. Пол Ньюмен в остросюжетном фильме **«Форт Апачи, Бронкс»** (США).
21.40 Наше кино. Комедия **«Русский счет».**
23.05 -Сериал **«Байки из склепа». «Месть обездоленных», «Взятка»** (США).

## Аўторак, 5 студзеня

### БТ

6.30 Доброе утро, Беларусь!
8.15 Политические диалоги.
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 «Между прошлым и будущим».
9.35 «Мультиклуб».
10.10 «Колядные истории». Георгий Марчук. «Кормят ли волка ноги?»
10.25 **«Обуза»**. Х/ф для детей.
11.00 Новости.
11.10 **«Доктор Финли»**. Сериал
12.05 Третий тайм.
12.35 «А музыка звучит...»
13.00 Новости.
13.15 Силач.
14.00 Туробъектив.
14.25 Бездельник.
15.00 Новости.
15.15 «Денвер. Последний динозавр». Мультсериал.
15.40 Курс английского языка.
16.05 «Слово и сцена».
17.00 Новости.
17.10 Уроки Натальи Новожиловой.
17.35 Гости в дом.
18.00 **«Доктор Финли»**. Сериал
19.00 Новости.
19.15 «Алло, «Событие».
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 **«Варианты»**. Х/ф.
23.10 Белорусский хит-парад.
23.15 Музыкальный салон.
23.45 Новости.
23.55 Темная комната.

### ОРТ

8.00, 11.00 (с сурдопереводом), 14.00, 17.00 Новости.
8.15 Новая комедия **«Полицейские и воры»**.
10.00 Смехопанорама.
10.30 «Матч-реванш». Мультфильм.
10.50 Домашняя библиотека.
11.10 Программа «Вместе».
14.15 Сериал **«Новые приключения Синдбада»**.
14.50 Счастливый случай.
15.35 ...До 16 и старше.
16.00 **«Жестокий ангел»**.Сериал
17.15 Джентльмен-шоу.
17.40 Угадай мелодию.
18.10 Тема.
18.50 Новый год на **«Улице разбитых фонарей». «Дело N 1999»**. Часть 1-я.
19.45 «Спокойной ночи,малыши!»
20.00 Время.
20.40 Погода.
20.50 Комедия **«Три плюс два»**.
22.25 Хоккей. Евролига. «Лександ» (Швеция) - «Динамо» (Москва).
23.07 Новость дня.

### РОССИЯ

6.00 Доброе утро, Россия.
8.35 Телеигра «Программа передач».
9.00 **«Санта-Барбара»**. Сериал.
9.45 Музыка, музыка...
10.00, 16.00, 19.00, 23.00 Вести.
15.15 «Зима в Простоквашино», «Горный мастер», «Огневушка-поскакушка». Мультфильмы.
16.30 «Башня».
16.55 Х/ф **«Д'Артаньян и три мушкетера»**. 2-я серия.
18.30 **«Манька»**. Х/ф.
19.40 «Аншлаг» представляет.
20.10 Время кино. Мелодрама **«Зимняя вишня».**
21.40 **«Закон и порядок»**. Сериал.
22.30 Автошоу.

### КУЛЬТУРА

7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
7.20 Погода.
7.25 «Такое кино». «1001 рассказ про кино», «Великий мистификатор». Д/ф.
8.05 Живое дерево ремесел.
8.10 «Я не могу без этой сцены, я - артист». Е.Шифрин.
9.00, 15.00, 17.00 Новости.
9.05 **«Жозеф Бальзамо»**. Х/ф .
10.10 Мир авиации.
10.35 «Русская усадьба». Коттедж.
11.00 «Время музыки».
11.40 Академия спорта.
12.00 Без визы.
12.15 «Уходя, оглянись».
12.30 Л.Зорин. «Цитата». Спектакль. 1-я серия.
13.29 Азбука. Говорите по-русски.
13.45 Л.Зорин. «Цитата». Спектакль. 2-я серия.
14.50 Поклонникам Терпсихоры.
15.05 Детский сериал **«Машина превращений»**.
15.35 «Лукоморье».
15.55 «Неизвестный Китай».
16.30 «Кумиры».
17.05 «2003». К 300-летию Санкт-Петербурга.
17.10 Ортодокс.
17.30 Ноу-хау.
17.45 «Шекспир. XX век».
18.15 «Документ-панорама». «Последнее амплуа Олега Юртайкина», «Лицеист». Д/ф.
19.05 «Страх».
19.15 Чудо-сказка.
19.29 Азбука. Говорите по-русски.
19.50 «Личное дело».
20.15 «Портреты в камне». «Жизнь за царя». Фильм 1-й.
20.45 После новостей...
21.05 **«Жозеф Бальзамо».** Х/ф.
22.00 «Из концертного зала».
22.40 «Перед началом спектакля». Д/ф. Режиссер И.Гутман.

### НТВ

5.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 «Сегодня утром». Информационная программа, погода.
5.10, 6.10, 7.15 Спорт.
5.15 День в истории.
5.20, 7.25 Криминал.
5.35 Градусник.
5.40, 6.50 Впрок.
5.50 Сегодняшко - Питер.
6.15, 7.20 Погода.
6.20, Я - телохранитель.
6.25, 7.45 Сегодняшко.
6.35 Живые новости.
6.40 Мультфильм.
7.35 Большие деньги.
8.10 Дог-шоу «Я и моя собака».
8.35 Мультканикулы. «Машенька и медведь».
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.15 Наше кино. Комедия **«Русский счет»**.
10.35 Мультканикулы «Боцман и попугай». Выпуски 1-й и 2-й.
11.20 «Старый телевизор» вспоминает: «Деревенский детектив».
13.25 Сериал **«Госпожа следователь». «Пожар»** (Франция).
14.10 Сегодняшко.
15.20 Мир приключений и фантастики **«Захватчики»** (США).
16.10 «Сегодняшко». Красная стрела.
16.40 Сериал **«Доктор Куин, женщина-врач»** (США).
17.30 Впрок.
17.40 Криминал.
18.40 Х/ф **«Не могу сказать «прощай».**
20.25 «Криминальная Россия». «Убийство депутата Скорочкина».
21.40 Час сериала. **«Скорая помощь»** (США).
22.30 Сегодняшко.
23.10 Сегодня в полночь.
23.35 Ночной сериал. **«Шериф из преисподней»** (США).

## Серада, 6 студзеня

### БТ

6.30 Доброе утро, Беларусь!
8.15 «Алло, «Событие».
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 Курс английского языка.
9.35 Мультфильмы.
10.05 «Колядные истории». Владимир Липский. «Как Иванушка Новый год проспал».
10.15 Видимо-невидимо.
11.00 Новости.
11.10 **«Доктор Финли»**. Сериал
12.05 Компьютерный полигон.
12.25 «Зорная ростань».
13.00 Новости.
13.15 Рождественская сказка **«Эльф, который не верил»**.
15.00 Новости.
15.15 «Денвер. Последний динозавр». Мультсериал.
15.40 Курс французского языка.
16.05 «5x5».
16.35 Курс английского языка.
17.00 Новости.
17.10 «Рождественский сундучок».
17.20 «А музыка звучит...»
17.50 «Рождественские вечера».
18.00 **«Доктор Финли»**. Сериал
19.00 Новости.
19.15 «Сегодня с вами...»
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 **«Крест на земле и луна в небе»**. Х/ф.
23.25 Белорусский хит-парад.
23.30 Новости.
23.45 Праздничное богослужение на Рождество Христово. Трансляция из Минского кафедрального Свято-Духова собора.

### ОРТ

8.00, 11.00 (с сурдопереводом), 14.00, 17.00 Новости.
8.15 **«Жестокий ангел»**. Сериал
9.10 Тема.
9.55 В мире животных.
10.30 «Метеор на ринге». Мультфильм.
10.50 Домашняя библиотека.
11.10 Программа «Вместе».
14.15 Сериал **«Новые приключения Синдбада»**.
14.50 Зов джунглей.
15.15 Детские анекдоты.
15.35 ...До 16 и старше.
16.00 **«Жестокий ангел»**.Сериал
17.15 Здоровье.
17.40 Угадай мелодию.
18.05 Человек и закон.
18.50 Новый год на **«Улице разбитых фонарей». «Дело N 1999»**. Часть 2-я.
19.45 «Спокойной ночи,малыши!»
20.00 Время.
20.40 Погода.
20.50 Рождество Христово. Трансляция из Богоявленского кафедрального собора Москвы.

### РОССИЯ

6.00 Доброе утро, Россия.
8.35 Телеигра «Программа передач».
9.00 **«Санта-Барбара»**. Сериал.
9.45 Музыка, музыка...
10.00, 16.00, 19.00 Вести.
15.10 «Краса ненаглядная». Мультфильм.
16.30 «Башня».
17.00 Компьютер.
17.15 Х/ф **«Д'Артаньян и три мушкетера»**. 3-я серия.
18.30 Киноновелла **«Крейзи».**
19.40 Сам себе режиссер.
20.15 Мелодрама **«Зимняя вишня-2»**.
22.00 Рождество Христово.
22.45 Праздничное обращение Святейшего Патриарха Московского и Всея Руси Алексия II.
22.55 Рождество Христово.
23.35 - 23.38 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА

9.00, 15.00 Новости.
9.05 Погода.
9.15 **«Жозеф Бальзамо»**. Х/ф.
10.10 Ноу-хау.
10.25 С.Франк. Прелюдия, хорал и фуга. Исполняет Р.Керер.
10.40 Академия спорта.
11.00 «Шекспир. XX век».
11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
11.35 «Россия православная».
12.05 А.Н.Островский. «Снегурочка». Спектакль.
13.29 Азбука. Говорите по-русски.
13.45 «Открытие таланта». Авторская программа А.Рыбникова.
14.15 Одиночество сильного. Кама Гинкас.
15.05 Детский сериал **«Машина превращений»**.
15.35 Живое дерево ремесел.
15.40 «Лукоморье».
16.00 Даниил Гранин в программе Льва Аннинского.
16.50 Дж.Верди. Увертюра к опере «Силы судьбы».
17.00 «Рождественская Всенощная в Новодевичьем монастыре».
18.45 «Говорите с радостью - он был».
19.10 Чудо-сказка.
19.29 Азбука. Говорите по-русски.
19.50 В.Шукшин. Рассказ «Миль пардон, мадам».
20.15 «Портреты в камне». «Жизнь за царя». Фильм 2-й.
20.45 После новостей...
21.05 **«Жозеф Бальзамо».** Х/ф
22.00 Вечер русского романса.
22.30 Митрополит Антоний Сурожский.

### НТВ

5.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 8.00 «Сегодня утром». Информационная программа, погода.
5.10, 6.10, 7.15 Спорт.
5.15 День в истории.
5.20, 7.25 Криминал.
5.35 Градусник.
5.40, 6.50 Впрок.
5.50 Сегодняшко - Питер.
6.20, Я - телохранитель.
6.25, 7.45 Сегодняшко.
6.35 Живые новости.
6.40 Мультфильм.
7.35 Большие деньги.
8.10 Час сериала. **«Скорая помощь»**. (США).
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.15 Наше кино. **«Не могу сказать «прощай».** Х/ф.
10.40 «Среда».
11.20 «Деревенский детектив», заключительная часть.
13.25 Сериал **«Госпожа следователь». «Пожар»** (Франция).
14.10 Сегодняшко.
15.20 Мир приключений и фантастики. **«Захватчики»** (США).
16.10 «Сегодняшко».
16.40 Сериал **«Доктор Куин, женщина-врач»** (США).
17.30 Впрок.
17.40 Криминал.
18.40 Премия «Оскар». Остросюжетнный фильм **«Буч Кэссиди и Санденс Кид»** (США).
20.40 Профессия - репортер.
21.40 Рождественские встречи Аллы Пугачевой.
23.10 Сегодня в полночь.
23.35 Рождественские встречи Аллы Пугачевой.

## Чацвер, 7 студзеня

### БТ

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Сериал «Встречи с Библией» (Германия).
8.40 Потребительская корзина.
9.00 Новости.
9.10 Мультфильмы.
9.50 «Колядные истории». Михаил Позняков. «Сказка про медведя».
9.55 Слово Митрополита Минского и Слуцкого, Патриаршего Экзарха всея Беларуси Филарета на Рождество Христово.
10.05 **«Мед осы»**. Х/ф.
11.30 «Волшебница-елка».
13.05 **«Пес Барбос и необычайный кросс»**. Короткометражный х/ф.
13.25 «Рождество с друзьями».
15.00 Новости.
15.15 «Рождество с друзьми». Часть 2-я.
16.40 «С рождеством, малыш Мунки!» Мультфильм (Бельгия).
17.40 Луи де Фюнес в кинокомедии **«Большие каникулы»**.
19.05 «Рождественские вечера».
19.15 «Сегодня с вами...»
19.40 Добрый вечер, Беларусь!
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Н.Дробышева и Е.Урбанский в кинороманe режиссера Г.Чухрая **«Чистое небо»**.
23.25 Белорусский хит-парад.
23.30 Королевская охота.
24.00 Акколада.

### ОРТ

7.25 **«Приключения Электроника»**. 1-я серия. **«Побег».**
8.45 Слово пастыря.
9.00, 14.00 Новости.
9.15 Михаил Пуговкин и Георгий Вицин в веселой сказке **«Финист - Ясный сокол»**.
10.35 Играй, гармонь любимая!
11.05 Смехопанорама. Ведущий - Е.Петросян.
11.40 София Ротару, Ирина Роднина, Лидия Федосеева-Шукшина и другие «Женские истории». Специальный новогодний выпуск.
12.45 Ночь перед Рождеством в комедии **«Вечера на хуторе близ Диканьки»**.
13.55 Программа передач.
14.15 «Старые песни о главном - 1».
16.00 Премьера. «Незнайка на Луне» в программе «100%».
16.25 Премия «Триумф». Звезды Российского искусства.
17.05 «Золотая серия». Александр Збруев и Михаил Ульянов в народной комедии **«Все будет хорошо»**.
19.00 Поле чудес.
20.00 Время.
20.30 Погода.
20.40 Алла Пугачева. «Избранное». Заключительный концерт супертура. 1998 год.
22.50 Новость дня.
23.05 Юрий Яковлев, Леонид Куравлев и Владимир Гостюхин наносят ответный удар в фильме **«Левша».**
0.35 Программа передач.

### РОССИЯ

7.00 «В стране невыученных уроков». Мультфильм.
7.25 Комедия **«Приключения Петрова и Васечкина. Обыкновенные и невероятные»**. 1-я серия.
8.30 «Маленькая колдунья». Мультфильм.
8.55 Прогноз погоды.
9.00 Доброе утро, страна.
9.50 Творческий вечер Игоря Николаева.
13.00, 19.00 Вести.
13.30 Александр Белявский, Любовь Полищук и Лев Дуров в фильме **«Дар божий»**.
14.05 Новогодняя елка в Кремле.
15.10 «50 поэтических лет». Юбилейный вечер Андрея Дементьева.
16.35 М.Боярский, В.Смехов, В.Смирнитский, И.Старыгин в приключенческом фильме **«Мушкетеры двадцать лет спустя»**. 1-я и 2-я серии.
19.30 Михаил Задорнов. «Неюбилей». «Задорная компания».
21.10 Е.Сафонова, В.Соломин, Н.Русланова и Л.Удовиченков мелодраме **«Зимняя вишня-3».**
23.35 Горячая десятка.
0.30 - 0.33 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА

9.05 Погода.
9.10 «Верую!» Моноспектакль В.Ивченко по повести Л.Пантелеева «Не погасить свечу».
10.15 С.Рахманинов. Концерт № 3 для фортепиано с оркестром. Солист Н.Петров. Часть 1-я.
10.35 К.Батюшков. «Опыты в стихах и в прозе».
11.30, 13.30, 21.00 Новости культуры.
11.35 Программа передач.
11.40 Свет Рождества Христова.
12.20 «Российский курьер».
13.00 К.Паустовский. «Ручьи, где плещется форель». Телеспектакль.
13.29 Азбука. Говорите по-русски.
13.45 Шедевры мирового музыкального театра. «Большое па-де-де».
15.05 Боярский двор.
15.35 «Щелкунчик». Мультфильм.
16.05 «У нас в селе сегодня Рождество.
16.30 Новое кино.
17.00 Новости.
17.05 «2003». К 300-летию Санкт-Петербурга.
17.10 Песнопения русской православной церкви.
17.40 «Пушкин и другие...» Исполняет Э.Марцевич.
18.05 **«Иные нынче времена»**. Х/ф.
19.25 Чудо-сказка.
19.40 «Маленький Мук». Мультфильм.
19.55 «Франция, песня». Д/ф.
20.59 Азбука. Говорите по-русски.
21.20 «Бенефис Михаила Глузского». Премьера.
22.20 **«Жозеф Бальзамо»**. Х/ф
23.10 - 23.30 Джазофрения.

### НТВ

7.00 Каникулы с НТВ. «Новые приключения Бэтмена». Мультсериал (США).
7.25 «Земляника под снегом». Мультфильм.
7.35 **«Каменный цветок»**. Фильм-сказка.
9.00, 11.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.15 Наше кино. **«Колыбельная»**
10.35 Мульканикулы «Рикки-Тикки-Тави».
11.20 Наше кино. Е.Леонов, Н.Караченцов и М.Боярский в фильме **«Старший сын».** 1-я и 2-я серии.
13.40 Маленькая Россия в большой Америке.
14.10 Комедия **«Праздник Нептуна».**
15.20 Чемпионат России по фигурному катанию. Показательные выступления.
18.40 Мир кино. Чарльз Гродин и Бонни Хант в комедии **«Бетховен»** (США).
20.15 Поет Валерий Меладзе.
21.40 Наше кино. Х/ф **«Царская охота»**. 1-я и 2-я серии.



 

